*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№68 (1631)**
Аўторак, 15 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*Надвор'е*

Сёння ўдзень чакаецца: у Мінску — +7...+9, уначы — -1...+1; у Брэсце — +10...+12, уначы — +1...+3; у Гродне — +9...+11, уначы — 0...+2; у Віцебску — +5...+7, уначы — 0...+2; у Гомелі — +9...+11, уначы — +3...+5; у Магілёве — +7...+9, уначы — +2...+4.

На ўсёй тэрыторыі краіны малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Вецер паўночна-ўсходні, 1—3 м/с.

**www.meteo.by**



**ПУЛЬС**

## Час сеяць, ды няма паліва

*Чэрвеньскі раён, вываз арганікі на поле.*
**Фота IREX/ProMedia.**

Цяжкая сітуацыя з забеспячэннем пасяўной кампаніі гаруча-змазачнымі матэрыяламі склалася ў Салігорскім раёне Мінскай вобласці. Агульны запас іх у 28 гаспадарках раёна пакуль не перавышае сарака тон. Паводле афіцыйных звестак, для правядзення сяўбы рэгіёну патрабуецца 410 тон бензіну і 2.700 тон дызельнага паліва.

Між тым, многія калгасы яшчэ не разлічыліся з крэдыторамі за мінулагоднюю пастаўку гаручага на суму 1 мільярд 800 мільёнаў рублёў.

Як заявіў у інтэрв'ю БелаПАН галоўны аграном упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Салігорскага райвыканкама Уладзімір Рыдзецкі, без дапамогі ўрада вырашыць праблему з гаручым для правядзення пасяўной кампаніі ў Салігорскім раёне немагчыма.

Акрамя таго, з-за адсутнасці сродкаў гаспадаркі рэгіёна недастаткова забяспечаны мінеральнымі ўгнаеннямі: фосфарнымі — усяго на 19 працэнтаў ад неабходнага, азотнымі — на 28, хлорыстым каліем — на 40 працэнтаў.

Як сцвярджае намеснік старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Мінскага аблвыканкама Уладзімір Філіпаў, падобныя праблемы адчуваюць і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы іншых раёнаў Мінскай вобласці. Паводле яго слоў, земляробы атрымаюць фінансавую падтрымку ад дзяржавы за кошт інавацыйных фондаў і іншых пазабюджэтных крыніц.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

## Беларусь — лідэр па росце цэн

На 8,1 працэнта павялічыліся спажывецкія цэны ў Беларусі па выніках першага квартала гэтага года, паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу.

У студзені цэны выраслі на 4,3 працэнта, у лютым — на 1,9, у сакавіку — на 1,8.

Беларусь па-ранейшаму ў лідэрах паводле росту цэн сярод краін СНД. У Расіі цэны павялічыліся ў сакавіку на 1,1 працэнта (з пачатку года — на 5,2), ва Украіне — на 1,1 (на 3,7), у Казахстане — на 0,3 (на 1,7), у Арменіі — знізіліся на 0,5 (выраслі на 2,1).

На 2003 год урад і Нацыянальны банк Беларусі прагназуюць павелічэнне цэн на 18-24 працэнты. Такім чынам, за першы квартал план "выкананы" на 45 працэнтаў па ніжняй мяжы і на 33,8 працэнта — па верхняй.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Чым парадуе «Мотаршоу»?

Удзел у штогадовай выставе "Мотаршоу", якая пройдзе з 29 красавіка па 4 мая ў Палацы лёгкай атлетыкі СКА ў мінскім мікрараёне Уручча, пацвердзілі дылеры звыш 20 вядомых вытворцаў аўтамабіляў і матацыклаў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведамілі арганізатары выставы — прадстаўнікі рэкламнага агенцтва "РеМарк" і Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі.

Некаторыя маркі аўтамабіляў будуць выстаўлены ў Беларусі ўпершыню. Шоу-мабілем мерапрыемства стане "Паршэ Бокстэр". Кампанію яму складзе "Паршэ Каен" — першы пазадарожны аўтамабіль гэтай легендарнай маркі. Акрамя гэтага, на выставе будзе прадстаўлена вялікая экспазіцыя паўнапрывадных аўтамабіляў. Арганізатары таксама абяцаюць "шмат цікавага" для аўтааматараў. У паўтара раза ў параўнанні з мінулым годам павялічыцца экспазіцыя запчастак, маслаў, вытворцаў абсталявання і іншых спадарожных матэрыялаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Беларускай оперы не хапае кадраў

Адной з галоўных праблем Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Беларусі з'яўляецца неўкамплектаванасць трупы. Аб гэтым на пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры паведаміла мастацкі кіраўнік беларускай оперы Маргарыта Ізворска-Елізар'ева. Паводле яе слоў, з верасня мінулага года, калі яна была прызначана на пасаду мастацкага кіраўніка, у тэатры "не ўдалося поўнасцю вырашыць гэтую праблему". Тэатр не можа дазволіць сабе запрасіць вядомых спевакоў і выканаўцаў, акрамя таго, востра стаіць пытанне аб стажорскіх групах.

Беларускі балет — самы нізкааплачваемы: калі ў маскоўскім Вялікім тэатры саліст балета за выхад атрымлівае 1 тысячу долараў ЗША, і гэта дадаткова да зарплаты, а ў кіеўскім тэатры малады выканаўца мае 300 долараў, то ў Вялікім тэатры балета Беларусі — сярэдняя зарплата 300 долараў, і тая даецца вялікім потам і крывёю.

## Пройдзе «Гомельская вясна»

Учора ў Гомелі і Гомельскай вобласці пачаўся фестываль мастацтваў "Гомельская вясна", арганізаваны ўпраўленнем культуры Гомельскага аблвыканкама і Гомельскай абласной філармоніяй. Ён працягнецца да 25 красавіка.

Як паведаміў БелаПАН намеснік дырэктара філармоніі па канцэртнай дзейнасці Сяргей Ляпёшкін, сёлета ў фестывалі бяруць удзел Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя Жыновіча, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Шырмы, піяніст Андрэй Паначэўны, харэаграфічны ансамбль "Харошкі", а таксама выканаўцы з Адэсы, Гродна і іншых гарадоў. Асаблівасцю сёлетняга фестывалю з'яўляецца тое, што ў яго рамках выступяць салісты маскоўскага Вялікага тэатра з операй "Севільскі цырульнік".

Канцэрты пройдуць у Гомелі, Мазыры, Жыткавічах, Жлобіне, Чыркавічах, Светлагорску, Ветцы, Петрыкаве, у прыватнасці, у дзіцячых музычных школах і ВНУ.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**





**ВОЙНА В ИРАКЕ**

# Морская пехота на родине Саддама

### А в Интернете продают туалетную бумагу с его изображением

Американские танки и подразделения морских пехотинцев вошли в центр родного города Саддама Хусейна Тикрита. Ранее американский генерал Томми Фрэнкс сообщил, что американцы вошли в город, не встретив никакого сопротивления. Но затем поступили сообщения, что морские пехотинцы вступили в ожесточенное боевое столкновение с иракскими вооруженными ополченцами в южном пригороде Тикрита. По сообщению командования союзников, в ходе боя были уничтожены несколько иракских танков и убиты, по меньшей мере, 15 ополченцев.

Между тем, на контролируемой войсками коалиции территории Ирака тщательно ведутся поиски "героического наследия" режима Саддама Хусейна. В Багдаде, например, обнаружен архив иракской секретной полиции "Мухабарат". Как сообщает телекомпания "Си-Би-Эс", архив был найден в подвале разрушенного бомбардировками здания штаб-квартиры полиции.

В собрании личных дел насчитывается около миллиона индивидуальных томов с фотографиями и отпечатками пальцев подследственных.

### Рамсфельд не хочет, чтобы Сирия стала раем

По словам американского президента Джорджа Буша, война в Ираке показала, что "у нас серьезные намерения насчет ликвидации оружия массового уничтожения". Отвечая на вопрос, может ли Сирия столкнуться с военными мерами, Буш сказал: "Им просто надо сотрудничать". Буш также повторил свое предупреждение Сирии не укрывать от сил коалиции высокопоставленных лиц из состава иракского руководства. Кроме того, по его словам, сирийские меценаты оказывали помощь иракской армии и вооруженным формированиям в борьбе с войсками союзников.

Ранее министр обороны США Дональд Рамсфельд заявил, что "нет никаких сомнений" в том, что некоторые члены бывшего правительства Саддама Хусейна бежали в Сирию. "Часть из них так и осталась там, в то время как остальные выехали в другие страны, — уточнил он. — Мы, безусловно, надеемся, что Сирия не станет раем для военных преступников и террористов".

### В Багдаде возобновилась уличная торговля

В Багдаде впервые после перехода города под контроль антииракской коалиции возобновилась работа продуктовых киосков и уличных торговцев. Большинство крупных магазинов по-прежнему остаются закрытыми. Как сказал владелец одного из уличных киосков, "ситуация отчасти нормализуется, активность людей на улицах города возросла". По словам членов съемочной группы агентства "Рейтер", цены на товары первой необходимости значительно возросли по сравнению с довоенным временем.

### Интернет-аукционы заполонили иракские сувениры

Один из популярных интернет-аукционов предлагает более 2000 лотов, так или иначе связанных с Саддамом Хусейном и войной в Ираке. Чаще всего выставляются иракские динары с изображением Хусейна. Их ценность начала расти после сообщений о том, что по окончанию войны коалиция собирается ввести в обращение новые банкноты и монеты. Из более раритетных вещей всего за 4 доллара можно купить плакат "Разыскивается Саддам Хусейн. Живым или мертвым". При этом фотография разыскиваемого с якобы его автографом предлагается уже за 3750 долларов.

Кроме того, при желании можно обзавестись посудой из дворцов иракского президента. Предлагаются хрустальные бокалы и одна серебряная вилка (601 доллар). Свое отрицательное отношение к Хусейну можно показать, купив рулончик туалетной бумаги с его портретом за 20 долларов.

**Наталья ГАК.**
**Фото "Рейтер".**

# Хто дае ўказанні аб выкраданні людзей?

**Юрый ЗАХАРАНКА** **Віктар ГАНЧАР** **Анатоль КРАСОЎСКІ** **Дзмітрый ЗАВАДСКІ**

Родныя Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі пры садзейнічанні намесніка старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйлы звярнуліся да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава, дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Генадзя Нявыгласа, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Леаніда Ерына з просьбай патлумачыць словы прэзідэнта, сказаныя ім 27 сакавіка на семінары па пытаннях удасканалення ідэалагічнай работы. Гаворачы пра былога пасла Беларусі ў Японіі Пятра Краўчанку, Аляксандр Лукашэнка заявіў: "Я ўжо спецслужбам, прабачце мне маю шчырасць, даю ўказанні — выкрасці і прывезці ў краіну".

Родныя зніклых палітыкаў звярнуліся да вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў з просьбай адказаць на два пытанні: "На падставе якіх нарматыўных актаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь надзелены такімі паўнамоцтвамі — аддаваць указанні аб выкраданні людзей, пазбаўленні іх волі?", "Ці аддаваліся прэзідэнтам Лукашэнкам А.Р. раней падобныя ўказанні спецслужбам у дачыненні да Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага?".

"Калі Лукашэнка даваў такія ўказанні наконт Краўчанкі, то няма ніякіх гарантый, што ён не даваў такіх указанняў наконт Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара", — заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН жонка зніклага ў 1999 годзе палітыка В.Ганчара Зінаіда Ганчар.

**Аляксей ШЭІН,**
**БелаПАН.**

## Вяртанне «крутога» старшыні

**13 гадоў таму Случчыну абляцела нечуваная ў даперабудовачныя часы вестка: у калгасе "III Інтэрнацыянал" механізатары аб'явілі забастоўку ў знак пратэсту супраць занадта жорсткіх, як ім бачылася, адносін да іх старшыні праўлення Аляксандра Каржанеўскага.**

Не дапамаглі і наезды з угаворамі спыніць страйк і пагрозамі работнікаў гаркама КПБ — ён працягваўся каля месяца. Урэшце гаркам мусіў вызваліць "крутога" старшыню ад пасады, хоць у ягоных канфліктах з людзьмі "праглядваліся" звычайныя нервовыя зрывы ў дачыненні да п'яніц і лайдакоў.

У горадзе звольненаму старшыні далі пасаду дырэктара вытворчага аб'яднання "ЖКГ", адкуль ён неўзабаве мусіў звольніцца і пэўны час быў беспрацоўным. Таму ад прапановы "вертыкалі" вярнуцца ў калгас не адмовіўся — там у яго ўласны дом, жонка працуе аграномам. Днямі сход упаўнаважаных выбраў Аляксандра Каржанеўскага старшынёй праўлення.

За час яго адсутнасці ў калгасе змянілася аж чатыры старшыні, аднак вывесці "ляжачую" гаспадарку з катэгорыі стратных (такіх у раёне дзевяць) ім не ўдалося. За мінулы год сума страт склала 80 мільёнаў рублёў. Уся надзея зняверaных хлебаробаў зараз — на новага старшыню, яго "круты" нораў там, дзе трэба наводзіць парадак, бо за апошнія гады колькасць аматараў спіртнога ў вёсцы не зменшылася, а нават узрасла, таму і дысцыпліна працы кульгае.

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**
**г.Слуцк.**

## Гандлёвы бум з разлікам на багацеяў

У Віцебску нядаўна адкрыўся супермаркет на праспекце Перамогі. Стварэнне самага буйнога на Віцебшчыне магазіна заняло няшмат часу. У выніку рэканструкцыі плошчы магазіна павялічыліся на 1600 $м^2$ і цяпер займаюць больш за 2000 "квадратаў".

Змена дызайну і закупка сучаснага абсталявання пераўтварылі прасторны, але старамодны комплекс у супермаркет еўрапейскага ўзору, дзе можна купіць самыя разнастайныя тавары, асартымент якіх перавышае 14 тысяч назваў. Новы гандлёвы цэнтр належыць буйнейшаму і багацейшаму ў горадзе прадпрыемству гандлю — акцыянернаму таварыству "Веста", доля якога ў тавараабароце Віцебска складае 20%.

Але беднасць насельніцтва з'яўляецца галоўнай прычынай таго, што рост колькасці гандлёвых прадпрыемстваў не аказвае прыкметнага ўплыву на аздараўленне эканомікі вобласці. Рост тавараабароту на Віцебшчыне значна адстае ад росту даходаў насельніцтва. У выніку з 31,6 трыльёна рублёў даходаў мясцовых жыхароў праз гандаль у банкі ў 2002 годзе вярнулася толькі 733 мільярды — 46%.

У той час, як Віцебск стварае супермаркеты з тысячамі тавараў, правінцыйныя пакупнікі пазбаўлены самага элементарнага выбару.

Згодна з вынікамі праверкі, арганізаванай спецыялістамі Нацбанка, у большасці магазінаў Гарадоцкага раёна не было нават неабходнага асартыменту: мыла, пральнага парашку, макаронаў, мяса, посуду, газы, запалак і іншага, што неабходна людзям.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА**

# Эканамічны суверэнітэт — пад пагрозай!

**Генадзь ЛЫЧ,**
**акадэмік**
**Нацыянальнай Акадэміі**
**навук Беларусі**

Што ў нас з эканамічным суверэнітэтам? Наколькі канкурэнтаздольная беларуская эканоміка? Ці ў стане яна супрацьстаяць магчымым знешнім і ўнутраным пагрозам? Наколькі разумнай і самастойнай з'яўляецца сацыяльна-эканамічная палітыка, якую праводзіць кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь? У якой меры яна адпавядае нашым вышэйшым нацыянальным інтарэсам? І што нам трэба чакаць ад больш цеснага далучэння Беларусі да працэсаў глабалізацыі?

Пытанні, адразу скажу, лёсавызначальныя. І, на вялікі жаль, тут больш адмоўных адказаў, чым станоўчых. А калі гаварыць шчыра, адкрыта, то наш эканамічны суверэнітэт сёння знаходзіцца Ў ВЯЛІКАЙ НЕБЯСПЕЦЫ. Прычым пагрозы яму зыходзяць з самых розных бакоў.

На першае месца па важнасці я паставіў бы паліўна-энергетычную залежнасць беларускай эканомікі ад Расіі. За кошт уласных крыніц зараз мы пакрываем толькі каля 15 працэнтаў сваіх патрэбнасцей у энергарэсурсах. Астатнія 85 працэнтаў даводзіцца купляць за мяжой, пераважна ў Расіі. Прычым яе доля ў імпарце энергарэсурсаў з цягам часу не толькі не змяншаецца, а, наадварот, няўхільна ўзрастае. Да прыкладу, удзельная вага Расіі ў імпарце каменнага вугалю з 1995 года па 2001 год павялічылася з 70 да 97 працэнтаў. Што датычыцца нафты і прыроднага газу, то іх мы як куплялі, так і купляем толькі ў Расіі. У дадатак на яе долю прыпадае 98 працэнтаў усіх нафтапрадуктаў, якія Беларусь імпартуе з-за мяжы.

Гэта не было б так страшна, каб не наша істотная тэхніка-тэхналагічная адсталасць. Бо, як вядома, не толькі Беларусь, але і многія іншыя краіны таксама не валодаюць неабходнымі запасамі энергарэсурсаў, і тым не менш асобныя з іх даволі паспяхова развіваюцца і ўпэўнена абараняюць свой эканамічны суверэнітэт. Дамагаюцца яны гэтага менавіта дзякуючы таму, што здолелі выйсці на значна больш высокі ўзровень тэхніка-тэхналагічнага развіцця, чым краіны, якія маюць багатыя запасы энергарэсурсаў.

Звычайна аб тэхніка-тэхналагічным узроўні матэрыяльнай вытворчасці мяркуюць па ўдзельнай вазе інавацыйнай (навукаёмістай) прадукцыі ў агульным аб'ёме прамысловай прадукцыі. Пры гэтым прынята лічыць, што з пункту погляду забеспячэння канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі і захавання эканамічнага суверэнітэту дадзены паказчык не павінен апускацца ніжэй за 15 працэнтаў. У нас жа ўдзельная вага інавацыйнай прадукцыі ў агульным аб'ёме прадукцыі прамысловасці па некаторых ацэнках складае ўсяго толькі ад аднаго да трох працэнтаў.

Бясспрэчным сведчаннем нізкага тэхніка-тэхналагічнага ўзроўню айчыннай вытворчасці з'яўляецца таксама пагражальна высокая ступень фізічнага зносу яе асноўных фондаў. Паводле афіцыйных даных, у 2001 годзе ў сярэднім па ўсёй народнай гаспадарцы яна дасягнула 47,8 працэнта і працягвае няўхільна павышацца.

Асабліва высокага ўзроўню дасягнуў знос актыўнай часткі асноўных фондаў, якім належыць вырашальная роля ў забеспячэнні вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі. Па стане на канец 2001 года сярэдні каэфіцыент зносу машын і абсталявання ў прамысловасці складаў 81,1 і транспартных сродкаў — 66,6 працэнта. Па сельскай гаспадарцы аналагічныя паказчыкі былі роўнымі адпаведна 79,3 і 76,8 працэнта, будаўніцтве — 81,3 і 70,6 і па транспарце — 67,2 і 66,8 працэнта.

Па ўсіх асноўных галінах фізічны знос актыўнай часткі асноўных фондаў сёння ў два разы перавышае той межавы ўзровень, пасля якога далейшае павелічэнне ступені фізічнага зносу фондаў уяўляе сабой рэальную пагрозу эканамічнай бяспецы, а значыць, і эканамічнаму суверэнітэту краіны. Бо, па-першае, гэта істотна павялічвае верагоднасць з'яўлення тэхнагенных аварый і катастроф, якія не толькі вядуць да вялікіх страт матэрыяльных каштоўнасцей, але і пагражаюць здароўю і жыццю многіх людзей.

Па-другое, высокая ступень зносу асноўных фондаў абумоўлівае нізкую якасць прадукцыі і павышаныя выдаткі на яе вытворчасць, у тым ліку энергарэсурсаў. Усё гэта вядзе да няўхільнага зніжэння рэнтабельнасці вытворчасці і скарачэння даходаў, з'яўлення ўсё большай колькасці стратных прадпрыемстваў.

Падзенне эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці, у сваю чаргу, абумовіла нізкі ўзровень рэальных даходаў насельніцтва, з'яўленне вялікай колькасці людзей, якія апынуліся за рысай беднасці. Зараз па гэтым паказчыку мы перавысілі межавы ўзровень больш чым у чатыры разы. Калі з пункту гледжання гарантавання эканамічнай бяспекі краіны доля насельніцтва, якая атрымлівае даходы, меншыя за пражытачны мінімум, не павінна перавышаць 9 працэнтаў, дык у нашай краіне на працягу шэрагу апошніх гадоў яна складае да 40 працэнтаў. Гэта азначае, што наша нацыянальная эканоміка ўжо не здольная супрацьстаяць нават пагрозам, якія могуць зыходзіць знутры.

Асобна некалькі слоў хачу сказаць аб катастрафічным стане нашай сельскай гаспадаркі, які ўжо сёння тоіць у сабе рэальную пагрозу не толькі нашай харчовай, але і эканамічнай бяспецы. Не буду прыводзіць многа лічбаў на гэты конт. Абмяжуюся толькі адной — па экспарце сельскагаспадарчай прадукцыі Беларусь зараз у паўтара раза ўступае такой невялікай краіне з далёка не лепшымі ўмовамі для вядзення земляробства, як Эстонія, якая зусім нядаўна, будучы разам з намі ў складзе Савецкага Саюза, асабліва нічым не вылучалася. І пры гэтым дадам: у нас за апошнія гады адбылося істотнае змяншэнне спажывання насельніцтвам усіх асноўных прадуктаў харчавання.

Надзвычай вялікую пагрозу нашаму эканамічнаму суверэнітэту стварае аднабокасць арыентацыі знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь — у асноўным на Расійскую Федэрацыю. Прынята лічыць, што з пункту гледжання захавання эканамічнага суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці доля вядучай краіны-партнёра ў агульным аб'ёме знешняга гандлёвага тавараабароту не павінна перавышаць 30 працэнтаў. Доля ж Расіі ў агульным аб'ёме знешняга гандлёвага тавараабароту Рэспублікі Беларусь апошнім часам складае каля 65 працэнтаў, гэта значыць амаль удвая большая за межавы паказчык. Прычым заўважу, менавіта Расіі мы абавязаны тым, што ў нас па знешнім гандлі вялікае адмоўнае сальда. У 2001 годзе цалкам па ўсім знешнім гандлі яно было роўным 656 мільёнам долараў ЗША, а па знешнім гандлі з адной толькі Расіяй — 1312 мільёнам долараў, ці ўдвая большым. За адзінаццаць месяцаў 2002 года адмоўнае сальда знешняга гандлю з Расіяй перавысіла аналагічны паказчык па ўсім знешнегандлёвым тавараабароце ў 2,2 раза.

Можна з поўным правам канстатаваць, што наша эканоміка фактычна ўжо стала арганічнай часткай, прыдаткам расійскай эканомікі, не здольным да самастойнага развіцця. Таму нам, канешне ж, трэба было біць у званы, а не ў літаўры, з нагоды таго, што і ў мінулым 2002-м, годзе пры змяншэнні агульнага памеру знешнегандлёвага тавараабароту дзвюх краін — Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі — ён ушчыльную наблізіўся да рэкорднай адзнакі ў 10 мільярдаў долараў ЗША.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

